НАША СВАБОДА

№26(113) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

5 САКАВІКА 2001 года ПАНЯДЗЕЛАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ



стр.7

Они любят наш край

## Вопыт падману

**Пётр ЧАРОПКА**

Беларускі Хельсінкскі камітэт атрымаў ліст за подпісам намесніка старшыні Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі Аляксандра Зімоўскага. Гэта адказ на распаўсюджаны БХК прэс-рэліз, у якім Хельсінкскі камітэт пратэставаў супраць выкарыстання ўладамі незаконных метадаў агітацыі, спробаў дзяржаўных СМІ звязаць палітычную дзейнасць апазіцыі з крымінальнымі структурамі. У прыклад прыводзілася справа сына Міхаіла Чыгіра, які на БТ быў названы злачынцам яшчэ да пачатку расследавання, што груба парушае права на прэзумпцыю невінаватасці. БХК патрабаваў прадаставіць эфір для абвяржэння лжывых звестак.

У адказе Зімоўскі адкрытым тэкстам даў рэкамендацыі БХК аб падрыхтоўцы прэс-рэлізаў. Як зазначаецца ў лісце намесніка старшыні Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі, яго змест павінен быў быць супрацьлеглым выкладзенаму праваабаронцамі ў першапачатковым звароце. Напрыклад, трэба было напісаць, што не Беларускае тэлебачанне парушала закон, называючы чалавека да суда і следства злачынцам, а незалежная прэса арганізавала кампанію нацiску на следства і будучы суд і гэтак далей. Калі будзе так, то па словах А.Зімоўскага «ваша объективность и беспристрастность будет должным образом оценена и найдет самую широкую информационную поддержку» со стороны БТ.

Што меў на ўвазе пад «должной оценкой» каментатар «Рэзананса», застаецца толькі гадаць.

## Не любяць спецвыпуск

**Алег САКАЛОЎ**

Супрацоўнікі органаў унутраных спраў затрымліваюць у Мінску грамадзян, якія распаўсюджваюць спецыяльны выпуск апазіцыйнай газеты НАША СВАБОДА, прысвечаны вядомым у краіне асобам, што зніклі без вестак у апошнія гады. Гэты нумар газеты не паступаў у свабодны продаж праз кіёскі «Белсаюздруку».

Як паведамілі БелаПАН супрацоўнікі рэдакцыі, трое распаўсюджвальнікаў былі затрыманы ўвечары 2 сакавіка ў раёне станцыі метро «Інстытут культуры». Двое з іх былі адпушчаныя з пастарунку пасля 21 гадзіны, адзін – пасля гадзіны ночы 3 сакавіка. 3 сакавіка, паміж 11 і 12 гадзінамі, двое распаўсюджвальнікаў газеты затрыманы супрацоўнікамі міліцыі на дыспетчарскай станцыі «Дружная» каля чыгуначнага вакзала. ■

## «Зона» прымае навасёлаў

**Пятрусь КАЧАР**

Ужо сто сем'яў перасяленцаў з Чарнобыльскай зоны ў Масты вярнуліся ў родныя паселішчы, забруджаныя радыяцыяй. Перасяліліся ў Масты гадоў 10 таму і 360 сем'яў. Цяпер засталося каля 250. Бо цяжка знайсці працу. Палова мастаўчанаў працуе на прадпрыемстве «Мастыдрэў», дзе заробак рабочага складае 30-40 тысячаў. Менавіта праблемы працы і заробку вымушаюць людзей вяртацца ў забруджаную зону. Свае кватэры ў Мастах, атрыманыя ад дзяржавы, "чарнобыльцы" прадаюць, а набываюць дамы ў родных мясцінах. Аднак на забруджанай тэрыторыі ў аслабленых людзей абвастраюцца хваробы, асабліва ў дзяцей. І ехаць адтуль ужо няма куды. На дзяржаву спадзявацца не выпадае: пры вяртанні ў «родны кут» перасяленцы пішуць распіску, што ніякіх прэтэнзіяў да дзяржавы не маюць. ■



Мінск. 4 сакавіка. Палац моладзі. Тут праходзіў трохдзённы рыцарскі фестываль «Белы замак-2001». На здымку: пастановачны бой рыцараў, прысвечаны бітве на Нямізе 1067 года

Фота Ул.ШЛАПАКА

# Апазіцыя рыхтуецца да Дня Волі

**Рыгор БУЯН**

Беларуская апазіцыя распачала падрыхтоўку да «гарачай вясны-2001». У штаб-кватэры БНФ прайшло першае паседжанне аргкамітэта па падрыхтоўцы і правядзенні Дня Волі 25 сакавіка і Чарнобыльскага Шляху-2001 26 красавіка. У склад аргкамітэта, варта нагадаць, уваходзяць не толькі лідэры апазіцыйных АГП, БНФ, БСДП (Народная Грамада), але шырока прадстаўлены грамадскія дзеячы і навукоўцы, старшынёю ў аргкамітэце доктар гістарычных навук Анатоль Грыцкевіч.

Шэсці ды мітынгі 25 сакавіка – на 83-ю гадавіну Беларускай Народнай Рэспублікі пройдуць ці не ў 20 гарадах краіны. У Мінску ў Дзень збор абвяшчаецца ў 12 гадзінаў на Юбілейнай плошчы, адкуль да 10 тысячаў удзельнікаў пойдуць на пляц Волі, дзе мусіць прайсці мітынг.

Старшыня аргкамітэта А.Грыцкевіч наступным чынам пракаментаваў паседжанне. «Усе сённяшнія рашэнні папярэдніх. Але вырашана Дзень Волі адзначаць урачыста. Зрабіць збор людзей у гістарычнай частцы Менска і правадзіць у цэнтры горада – на плошчы Свабоды, не на ўскрайку, не на Бангалоры – гэта было б сорамна. Праўда, могуць быць карэкціроўкі, бо мы не ведаем, як паставяцца ўлады». «У нас будзе ўласная ахова парадку і максімальнае пазбяганне канфліктаў», – заявіў старшыня аргкамітэта.

На пытанне, ці будзе сёлетні Дзень Волі неяк звязаны з прэзідэнцкімі выбарамі, Анатоль Грыцкевіч адказаў: «Гэта будзе таксама ўлічана, але ўсё ж такі галоўнае – гэта Дзень незалежнасці, дзень Беларускай Народнай Рэспублікі і тое, за што мы ўвесь час змагаемся: незалежнасць Беларусі, ніякіх саюзаў з Расіяй, ніякіх Федэрацыяў». ■

# Растет внимание к Беларуси

**Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ**

**Похоже, процесс «просвещения» правящего режима в Беларуси входит в новую стадию. Как на Западе, так и в Кремле начинает преобладать понимание того, что ожидаемые выборы белорусского президента — последний шанс вернуть Беларусь в цивилизованное русло развития. В отличие от прошлых лет, Россия активно стала участвовать в диалоге с Европой по поводу политики, единолично проводимой Александром Лукашенко, и дальнейшей его политической судьбы.**

Начавшийся сегодня визит в Минск парламентской Тройки, в которую, как известно, входят представители ОБСЕ, Совета Европы и Евросоюза, имеет ряд особенностей. Среди них, пожалуй, самая интересная та, что программой визита предусмотрены отдельные встречи посланцев Европы не только с послом США в Беларуси Майклом Козаком, но и российским послом господином Долговым. Очевидно, что путинский Кремль все больше стал проявлять к А.Лукашенко не братский, как ему бы хотелось, а рациональный прагматизм. Как неоднократно подчеркивают, в неофициальных беседах, некоторые влиятельные российские политики, причины такого отношения к союзнику вызваны и скоротечным исходом Слободана Милошевича, которого Россия поддерживала до последнего момента. Пресловутая многовекторность приемлема для России и в ситуации, складывающейся вокруг правителя Беларуси. Ее проявлением можно считать и то, что российский посол в Минске практически вписался в слаженный хор западных дипломатов, старающихся спрогнозировать политику импульсивного руководителя Беларуси на ближайшие полгода. По некоторым данным, совершенно новые для себя стал испытывать трудности белорусский посол в Москве товарищ Григорьев. На связь с Кремлем ему стало труднее выходить. И что бы ни заявлял А.Лукашенко, мол, его, якобы, абсолютно не интересует "температура в Кремле". Очевидно, что тревога в белорусском руководстве по поводу прагматизма российского союзника усиливается.

После злополучного референдума 1996 года, обнародованные результаты которого мировое сообщество так и не приняло, в правящих кругах Беларуси была сформулирована установка, что в международном признании новая конституция не нуждается. Ведь ее принял народ. К нынешнему приезду парламентской Тройки и довольно многочисленной группы европейских парламентариев были обнародованы новые перлы в сокровищницу цивилизации. Один политик из палаты №2, которого коллеги-депутаты иначе, как чекистским почтальоном не называют, вдарился в откровения. Оказывается, по его словам, ОБСЕ является не международной организацией, а рудиментом холодной войны. Поэтому следовало бы пересмотреть отношение официального Минска к его представителям и прекратить их приглашать в Беларусь. Учитывая, что в последнее время представители ОБСЕ ездят в Беларусь вместе с представителями других европейских структур, то и тех не стоит приглашать. Такая демонстрация недоброжелательности к высоким гостям, о приезде которых уже было известно, еще раз показывает, что режим проявляет заметную нервозность. ►

*Окончание на стр.3*

## НАВІНЫ

■ **У Гродзенскай вобласці існуе 119 светлафораў. Гэта 1 светлафор на 10.000 чалавек.** Большая іх частка знаходзіцца на вуліцах Гродна. Адзін светлафор у абласным цэнтры прыпадае прыблізна на 5 тысяч жыхароў. У горадзе зарэгістравана 60 тысяч легкавых аўтамабіляў — фактычна па 1.000 на адзін светлафор.

■ **5 сакавіка ў мінскім кінатэатры «Перамога» адкрыецца Тыдзень літоўскіх фільмаў, арганізаваны пасольствам Літвы ў Беларусі.** У яго ўключаны сем стужак розных жанраў, знятых з 1965 па 1999 гады. Паказ пачнецца з псіхалагічнай драмы «Звер, які выходзіць з мора» (1991) рэжысёра Вітаўтаса Жалакявічуса. У праграму таксама ўключаныя карціны «Сляды пярэваратня», «Млечны шлях», «Час поўні», «Пачуцці» і «Эльза з Гіліі».

■ **У шматпавярховых жылых дамах Бабруйска спынена праца 21 ліфта.** Такое рашэнне прыняла камісія Праматнагляду, якая прызнала далейшую эксплуатацыю ліфтаў небяспечнай. Усяго ў Магілёўскай вобласці свой тэрмін эксплуатацыі выпрацавалі каля 230 ліфтаў — амаль кожны дзесяты.

■ **Споўнілася 25 гадоў вытворчаму прадпрыемству «Віцязь».** Віцебскі тэлевізійны завод пераадолеў узровень вытворчасці ў 30 тысяч вырабаў у месяц. Усяго за чвэрць стагоддзя адсюль на рынкі Беларусі, краінаў СНД і далёкага замежжа было адпраўлена больш чым 3 мільёны каляровых тэлевізараў.

■ **У другой палове красавіка ў Крэве мае адбыцца міжнародная навуковая канферэнцыя.** Яе назва — «Культурная спадчына Вялікага княства Літоўскага і яе значэнне для сённяшніх Беларусі і Літвы, узаемапаразумення ў Еўропе». Суарганізатарамі канферэнцыі сталі дзяржаўныя і грамадскія арганізацыі Беларусі, Літвы і Польшчы.

■ **Беларускія навукоўцы і грамадскія дзеячы накіравалі заяву супраць паказу па БТ фільма «Душехваты» сумнавядомага рэжысёра Азаронка.** Фільм праніззвае пагардлівае стаўленне да каталіцкай царквы і яе іерархаў. Паводле заявы, фільм прыніжае беларускі народ і вядзе да распальвання міжканфесійнай варожасці. У заяве гаворыцца: «Шкадуем, што Беларускае тэлебачанне паказвае нізкапробныя прапагандысцкія фільмы, якія штурхаюць гледачоў у бездань невуцтва, цемрашальства, сляпой агрэсіі і нянавісці».

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




Крыніца: www.gismeteo.ru

Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 1250

# Растет внимание к Беларуси

*Окончание, начало на стр.1*

Помнится, этот негостеприимный деятель уже просил прилюдно А. Лукашенко во время выступления в Овальном зале Дома правительства закрыть в Минске офис Консультативно-наблюдательной группы ОБСЕ во главе с послом Виком. Видимо, свойственное ведомственным «почтальонам» любопытство к корреспонденциям, в отношении данной миссии ОБСЕ остается неудовлетворенной. Как известно, с таким же чувством он вернулся недавно из Вены, где было решено пока оставить вакантным место для белорусского парламента. Европа по-прежнему не признает результаты прошедших прошлой осенью выборов в палату №2. При нынешнем положении, когда А.Лукашенко в упор не желает видеть известных условий, сформулированных Европой, вполне вероятно, что и предполагаемые президентские выборы в Беларуси не будут признаны. Последние призывы, которые сделал перед своими послами А.Лукашенко об усилении западного вектора внешней политики и развитии связей, в первую очередь с Европейским Союзом, мало кто склонен воспринимать серьезно. Неизвестно, решился ли кто из приехавших на «учебу» послов сказать своему хозяину о том, что ему просто не верят.

Общеизвестно, насколько серьезно подорвано доверие к А.Лукашенко и со стороны такого влиятельного члена ОБСЕ, которым является США. Нет никаких признаков, что новая вашингтонская администрация изменит жесткое отношение США к правящему в Беларуси режиму. По крайней мере в этом году. Всплески тупой антиамериканской пропаганды, на проведение которой по своему телевидению дает отмашку правитель, лишний раз показывают, что США он не приемлет на генетическом уровне. А все потуги минских стратегов, рассчитанные на существующие различные противоречия между европейцами и американцами, несостоятельны. Похоже, московские стратеги это уже поняли. К примеру, по вопросу противоракетной обороны. А что касается режима А. Лукашенко, то В.Путину, как известно, на западном направлении нужен исполнитель, а не равноправный партнер. Осуществляемая В.Путиным централизация в России противоречит заклинаниям А.Лукашенко о равном статусе двух субъектов гипотетического союзного государства. Развернувшееся в Москве госстроительство этого государства, сопровождающееся наполнением новых бюрократических структур, проходит под пристальным вниманием кремлевской администрации. Показательным может стать и ожидаемое решение кадрового вопроса по государственному секретарю Союза Павлу Бородину. Его адвокаты обосновывают освобождение подзащитного под залог тем, что без личного присутствия госсекретаря на рабочем месте союзные структуры не могут функционировать. По мнению наблюдателей, не просто будет функционировать и лично А.Лукашенко в Высшем государственном совете российско-белорусского союза. На его заседании, которое почему-то неоднократно переносится, в кресле председателя А.Лукашенко сменит В.Путин. Тогда, видимо, ряд положений о правах председателя, предусмотренных в основополагающих документах, заработают в полную силу.

Безусловно, что новые моменты, связанные с прямым подключением России к белорусскому вопросу, парламентской Тройкой на этот раз будут учитываться как никогда. В том числе и на запланированной встрече с белорусскими политиками, среди которых, надо полагать, будут и те, кто мечтает стать президентом. Однако, как говорят местные и неместные аналитики, реальная альтернатива А.Лукашенко пока остается в тени. И заинтересован в этом, якобы, Кремль, «температура» в котором, если поверить, А.Лукашенко не волнует. Оценить реально складывающуюся ситуацию имеет возможность и Тройка высоких гостей из Европы. ■

# Моладзь АГП віншуе міліцыю

**Ірына ТОЎСЦІК**

Моладзь Аб'яднанай грамадзянскай партыі (АГП) 4 сакавіка правяла віншаванне ахоўнікаў парадку з нагоды Дня беларускай міліцыі.

Прадстаўнікі маладзёжнай АГП групамі ў складзе пяці-шасці чалавек наведалі ў гэты дзень усе дзевяць РАУСаў Мінска.

Кожнаму РАУСу дэлегацыя падрыхтавала падарункі: бел-чырвона-белыя кветкі, каробку цукерак і пасланне нашым ахоўнікам парадку, дзе гаворыцца пра тое, што «тыя, хто выходзіць на вулічныя акцыі — не «адмарозкі», не агенты разведак, а вашыя браты і сёстры. Яны проста хочуць для сябе і нашай Радзімы, усяго нашага народа лепшай долі. Памятайце пра гэта, сціскаючы дубінкі.

У гэтым годзе павінны адбыцца выбары, і мы верым, што супрацьстаянне скончыцца, таму што віноўніку нашай варожасці прыйдзецца сысці з палітычнай сцэны.

І тады, праз год мы сядзем за адзін стол і вып'ем за вашае здароўе, за здароўе нашых братоў — беларускіх міліцыянераў».

Мэтай гэтай акцыі ёсць уздзеянне на зрух свядомасці беларускіх міліцыянераў, на іх чалавечнасць і пэўную падтрымку ў патрэбны момант. Хаця начальства ў святочны дзень не было на месцы, акрамя Савецкага РАУСа, які лічыцца самым суровым у плане затрымання апазіцыянераў, але гэтае пасланне мусіць пабываць у іх руках і быць абмеркаваным.

Прымалі дэлегацыю ў кожным РАУСе па-свойму. Кастрычніцкі, напрыклад, прыняў цёпла, са словамі ўдзячнасці і абяцаннямі аберагаць і шанаваць нашую моладзь. Было, праўда, уражанне, што яны нават нічога не ведалі пра АГП, бо запыталіся: «А што гэта за служба?» Няветлівымі аказаліся дзяжурныя міліцыянеры Маскоўскага і Цэнтральнага РАУСу, бо прымусілі сябе доўга чакаць, а прадстаўнік Першамайскага ўвогуле, прачытаўшы пасланне, разгубіўся і суха адказаў, што не можа нічога нам сказаць без «голасу» зверху».

У прынцыпе на большую ўвагу шэраговых міліцыянераў да свайго віншавання і падарункаў моладзь АГП і не разлічвала. Галоўнае — увага. ■

# ФПБ лічыць перадачы БТ паклёпам

**Рыгор БУЯН**

Першы намеснік старшыні Федэрацыі прафсаюзаў Франц Вітко падаў іск у Першамайскі суд Мінска аб абароне гонару і годнасці. Прафсаюзны лідэр просіць, каб суд абавязаў Беларускае тэлебачанне абвергнуць паклёпніцкія выпады на адрас ФПБ з боку БТ.

11 лютага акула пяра і мікрафона з «Рэзананса» сказаў: «Зараз прафсаюзы нараджаюцца явачным парадкам: нікога не пытаючыся, у тым ліку і сваіх сябраў. Дэлегатаў з'езда ніхто не абіраў. Лёс мандатаў загадзя вызначаюць прафчыноўнікі. Таму атрымалася, што кіраўнікамі новай Федэрацыі сталі старыя начальнікі ранейшых арганізацыяў з прыпісанымі да іх безгалоснымі сябрамі прафсаюза».

Кіраўніцтва ФПБ у асобе першага намесніка старшыні Франца Вітко называе перлы «бэтэшных» мэтраў звычайным паклёпам і просіць абвергнуць гэтую інфармацыю афіцыйна ды даць слова ў эфіры кіраўнікам Федэрацыі. ■

# Беларускія бежанцы асацыяваліся

**Войцэх КОШ, БелаПАН**

Асацыяцыя беларускіх палітычных бежанцаў зарэгістраваная ў Беластоку 2 сакавіка. Як паведамляецца ў прэс-рэлізе новай арганізацыі, асацыяцыя будзе ажыццяўляць прававую, інфармацыйную і матэрыяльную падтрымку беларускім грамадзянам і асобам беларускага паходжання, якія былі вымушаны пакінуць краіну па палітычных матывах.

Асацыяцыя таксама будзе садзейнічаць беларускім палітычным бежанцам на ўсталяванні кантактаў з міжнароднымі праваабарончымі арганізацыямі.

Па словах кіраўніка арганізацыйнага камітэта асацыяцыі Яна Абадоўскага, у Польшчы знаходзіцца нямала беларусаў, якія выехалі з краіны па палітычных матывах. У інтэрв'ю беластоцкай газеце «Кур'ер Поранны» Абадоўскі заявіў, што яго асацыяцыя будзе знаёміць беларусаў, якія жадаюць атрымаць палітычны прытулак у Польшчы, з мясцовымі правіламі атрымання статуса палітычнага бежанца.

«Мы таксама хацелі б супрацоўнічаць з апазіцыйнымі арганізацыямі ў Беларусі, каб вызначаць, ці сапраўды палітычныя матывы з'яўляюцца сапраўднай прычынай жадання людзей шукаць палітычнага прытулку ў Польшчы», — заявіў спадар Абадоўскі. ■

**ФОТАФАКТ**



Конкурс на памятны знак для мемарыяла пагранічнікам у Гродне

# Ірак кантактуе з Беларуссю

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ**

Брытанская газета *Daily Telegraph* амаль праз год вяртаецца да тэмы актыўнага супрацоўніцтва Ірака ў ваеннай сферы з Расіяй і Беларуссю. У канцы лютага выданне апублікавала артыкул Джэсікі Бэры «Ірак павялічвае сакрэтныя закупкі расійскіх узбраенняў». У ім паведамляецца аб тым, што «Садам Хусейн аддаў распараджэнне аб значным павелічэнні колькасці супрацоўнікаў пасольстваў Ірака ў Расіі і Беларусі і прызначыў аднаго са сваіх высокапастаўленых ваенных кіраўнікоў новага разведвальнага падраздзялення ў Маскве». «Прызначэнне трымалася ў тайне, паколькі яно накіраванае на актывізацыю перамоваў з Расіяй аб супрацоўніцтве ў плане паставак узбраенняў, — піша спадарыня Бэры. — Брыгадны генерал Саадзі Махамед Субхі ўзначаліць ваеннае разведвальнае бюро ў складзе 20 чалавек, прыкамандзіраванае да іракскага пасольства ў Маскве. Прадстаўнікі заходняй разведкі выказалі занепакоенасць у сувязі з гэтым прызначэннем, указваючы на тое, што брыгадны генерал Субхі ў мінулым служыў у СПА... Адзін з заходніх прадстаўнікоў падкрэсліў: «Гэта сур'ёзнае адхіленне ад нормы. Звычайна яны прызначаюць на такія пасады супрацоўнікаў разведкі больш нізкага рангу. Той факт, што ён служыў у СПА, сведчыць, што перамовы з Масквой зайшлі ўжо далёка».

Што да Беларусі, то, паводле звестак газеты, «пашыраную разведвальную місію Ірака ў Беларусі ўзначаліць палкоўнік Аедзіл Каміл Хадздзі, ваенны інжынер па спецыяльнасці». «Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка з'яўляецца блізкім хаўруснікам Масквы, і прызначэнне Хадздзі ўяўляе сабой яшчэ адно сведчанне ўмацавання кантактаў Садама з Расіяй», — піша Джэсіка Бэры.

Нагадаем, што 22 лютага прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка прыняў даверчыя граматы ў Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Рэспублікі Ірак Зайфа Абдулмажыда Ахмеда. Пасол Ірака перадаў кіраўніку беларускай дзяржавы найлепшыя пажаданні ад іракскага прэзідэнта Садама Хусейна. Дыпламат выказаў спадзяванне, што яму будзе аказана ўсебаковая дапамога ў ажыццяўленні сваёй місіі ў Мінску.

Крыху менш чым год таму — 17 красавіка 2000 года — *Daily Telegraph* паведаміла свету аб тым, што пры пасрэдніцтве Расіі Беларусь, парушаючы эмбарга ААН, заключыла з Іракам здзелку, накіраваную на мадэрнізацыю сістэмы СПА гэтай краіны. «У рамках гэтай здзелкі дзяржаўная беларуская кампанія «Белтэхэкспарт» пагадзілася ўдасканаліць іракскія сродкі СПА, перааснасціць іракскія ВПС і забяспечыць падрыхтоўку іракскіх войскаў да абслугоўвання тэхнікі, — пісала тады брытанская газета. — Памеры здзелкі ацэньваюцца ў 90 мільёнаў долараў... У рамках здзелкі беларускія тэхнічныя спецыялісты павінны ажыццявіць мадэрнізацыю іракскіх ракетаў *SA-3*, павялічыўшы іх далёкасць з 18 да 29 кіламетраў. Будуць удасканалены таксама старыя іракскія зенітныя гарматы. Персанал іракскіх СПА будзе накіраваны ў Беларусь, дзе яго азнаёмяць з найноўшымі сістэмамі вядзення электронных войнаў». Акрамя таго, указвала *Daily Telegraph*, «беларускі бок згадзіўся таксама ажыццявіць мадэрнізацыю 17 іракскіх самалётаў савецкай вытворчасці, якія знаходзяцца ў Беларусі з канца 80-х гадоў». Гэтая публікацыя была расцэненая знешнепалітычным ведамствам Рэспублікі як факт «шчырай дэзінфармацыі і хлусні супраць Рэспублікі Беларусь».

У публікацыі ж бягучага года *Daily Telegraph* сцвярджае, што «дапамога з боку Расіі аслабіла неабходнасць Іраку пасля звяржэння рэжыму былога прэзідэнта Югаславіі Слабадана Мілошавіча — былога хаўрусніка Садама — які, як лічыцца, акрамя Расіі, Кітая і Беларусі, аказваў дапамогу ў мадэрнізацыі іракскай сістэмы СПА». ■

БелаПАН

# «Беларусь недополучает до 2 млрд. USD»

**Рыгор БУЯН**

3 марта Верховный Совет 13-го созыва принял весьма специфическое заявление-предупреждение к потенциальным иностранным инвесторам. «В связи с действиями исполнительной власти по продаже наиболее эффективных предприятий страны в ущерб государственным интересам с целью получения средств для президентских выборов и подкупа избирателей ВС РБ предупреждает потенциальных инвесторов о возможном непризнании в будущем таких сделок». Довольно странное заявление. За комментариями НАША СВАБОДА обратилась к бывшему руководителю Нацбанка Станиславу БОГДАНКЕВИЧУ.

***— Станислав Антонович, о чем идет речь и чем вызвана необходимость в принятии подобного заявления?***

— Появилась такая информация, что в попытках пару месяцев до президентских выборов поддержать уровень жизни, может быть, даже довести среднюю зарплату до обещанного уровня в 100 долларов, готовы продать государственные предприятия. А вырученные от подобных сделок средства будут использованы на проедание. Такой риск есть. Поэтому Верховный Совет и предупреждает потенциальных инвесторов, чтобы не купились на возможность по дешевке скупить белорусские предприятия, потому что после прихода к власти демократического кандидата все эти сделки могут быть не признаны. Нефтяные комплексы фактически уже проданы, для иностранных инвесторов лакомый кусочек представляют прежде всего те предприятия, которые держатся на плаву. Это и калийный комбинат, и МАЗ, и другие сильные предприятия. За эти деньги можно не допустить падения жизненного уровня 5-6 месяцев до выборов, но ведь тем самым транжирится национальное богатство. Приведу цифры: до вступления Лукашенко в должность президента изношенность оборудования составляла 40%, сейчас – все 70%. То есть за годы правления Лукашенко около половины национального богатства было пущено на проедание. Оно использовано временщиками на поддержание уровня жизни.

***— Станислав Антонович, вкратце охарактеризуйте состояние белорусской экономики накануне президентских выборов. Чего ждать людям в ближайшие месяцы?***

— В ближайшие месяцы до президентских выборов я не ожидаю ухудшения ситуации, равно как и значительного улучшения, даже при всех возможных внешних вливаниях на поддержку режима Лукашенко. В сегодняшней экономической ситуации есть несколько основных проблем. Это — технологическая отсталость, износ оборудования, утрата оборотных средств, низкая рентабельность, отсутствие внутренних источников инвестиций. Износ активной части оборудования составляет 72%, в промышленности – 75%, в нефтяной, нефтеперерабатывающей, химической промышленности – 84%. Уровень износа оборудования ежегодно растет на 4 пункта. При таких темпах через пять-шесть лет в стране наступит экономический коллапс. Это не мой прогноз – это официальный прогноз министерства экономики.

Вторая проблема – отсутствие макроэкономической стабильности. Макроэкономическая стабильность – это низкий уровень роста цен и стабильный обменный курс национальной валюты. В последние годы инфляция вырастала в два – три с половиной раза в год. Нет никакой стабильности рубля: ежегодно он падал в три раза и выше.

Увеличение минимальной зарплаты с 1 марта можно только приветствовать. Но дело все в том, что это повышение прикрывает *уже произошедший* рост цен. Повышение минимальной зарплаты в свою очередь вызовет очередной виток роста инфляции. Оно не может привести к росту благосостояния людей – просто на время позволит не упасть жизненному уровню.

Я не вижу оснований для каких-то крупных изменений. Растет объем нереализованной товарной продукции: залежи алкоголя на складах выросли в 10 раз, ковров – в 5 раз. Падает конкурентоспособность белорусских товаров. У нас плохо с продовольствием, мы теряем не только российский, но и собственный рынок. А белорусский рынок сдается на милость российскому производителю. К примеру, производство пива в Беларуси сократилось на 23%, а 26% на белорусском рынке занимает импорт из России. В 2000 году импорт товаров легкой промышленности вырос на 25%, хотя мы всегда гордились именно экспортом легкой промышленности. Дефицит внешнеторгового оборота с Россией составляет 1 миллиард 800 миллионов долларов – такого огромного дефицита никогда не было. Огромные товарные кредиты из России позволяют на некоторое время поддерживать уровень жизни.

***— Извечный вопрос: что делать?***

— Подъем экономики и подъем благосостояния людей невозможен без изменения валютаристской политики в экономике и без замены режима Лукашенко. Именно режим Лукашенко виновен в том, что вверг страну в международную изоляцию, из-за чего Беларусь ежегодно недополучает до 2 миллиардов долларов внешних инвестиций. ■

# Выкралі ў немцаў, папаліся ў Брэсце

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

Увечары 1 сакавіка супрацоўнікі ўпраўлення Камітэта па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй УУС Брэсцкага аблвыканкама сумесна з калегамі з Германіі затрымалі двух злачынцаў, якія выкралі 470 тысяч нямецкіх марак з банка горада Гіфорн (Германія). Банк быў абрабаваны 29 снежня мінулага года. Адзін з трох рабаўнікоў са спазненнем нацягнуў на твар маску, таму работнікам банка ўдалося яго пазнаць — гэта быў іх кліент. Крыміналісты з горада Браўншвайга сумесна з Інтэрполам высветлілі, што гэты чалавек знаходзіцца ў Брэсце. 28 лютага ў Брэст прыбылі нямецкія крыміналісты. N. быў затрыманы ўвечары. Неўзабаве паступіла паведамленне, што ў Германіі затрыманы злачынца, які захоўваў і размяркоўваў скрадзеныя грошы, а хутка высветлілася, што ў Брэсце знаходзіцца яшчэ адзін рабаўнік. Ён таксама быў затрыманы.

Злачынцы — былыя жыхары Казахстана, а зараз — грамадзяне Германіі. Пасля ўчынення злачынства яны жылі ў Брэсце і тут жа трацілі грошы. Высветлілася, што сума да 5 тысяч марак трацілася з іх за 3-4 дні. Злачынцам пагражае ад 5 да 10 гадоў турмы.

БелаПАН

